– Гора-маці з Харашэвіч, – новы расклад руху аўтобуса №12 на СТР. 2 – Інтэрв'ю з новым галоўным трэнерам «Камунальніка» на СТР. 5




# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

№ 26 (55). Слонім. 26 чэрвеня — 2 ліпеня 1998 г. *Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік* *Кошт свабодны*


**СЛОНІМШЧЫНА** *нашы людзі*

## ВОСЬ ТАК І ЖЫВЁМ







На Слонімшчыне ў камандзіроўцы пабываў беларускі фотакарэспандэнт Сяргей Грыц, які працуе на амерыканскае інфармацыйнае агенцтва Асашыэйтэд Прэс. У нас ён быў нядоўга, але зрабіў цэлы фотанарыс, галоўнымі героямі якога сталі нашы людзі. Вось, напрыклад, камера зафіксавала на плёнку вясёлых маладзіц на возе. А на пярэднім плане бачым зухаватага маладога мужчыну, які кіруе конікам. Пакуль Сяргей знаёміўся са слонімскімі дзяўчатамі, яго сфатаграфаваў карэспандэнт „ГС" Мікалай Супрун. Не змог утрымацца Сяргей, каб не зняць на плёнку ваколіцу вёскі Вялікія Шылавічы. Гэты краявід такі знаёмы і родны кожнаму з нас.

(Працяг на 2-й стр.)

**НАВІНЫ**

### ЖКХ предупреждает

**Похоже, что Слоним останется без горячей воды на целый календарный месяц.**

По информации жилкоммунхоза подача ее начнется 25 июля, после ежегодного профилактического ремонта тепловых сетей. Правда, горячая вода будет в городской бане, больнице, школе-интернате, спорткомплексе и в гостинице.

В тоже время, выясняется, что в Польше отключают горячую воду на профремонт не более, чем на 10 дней, а во Франции, Германии и в других странах «загнивающего» капитализма всего на несколько часов.

Нам бы такой прогресс.

**Наталья ФУРСОВА**

### Доллар снова вырос

**Национальный банк Беларуси разрешил коммерческим банкам устанавливать курс продажи наличной иностранной валюты населению на 10% выше курса покупки.**

Это повлекло за собой рост котировок американского доллара в обменных пунктах до 50000 рублей при покупке и 55000 рублей при продаже.

Тем временем на «черном» рынке доллар в понедельник тоже пошел в рост. Курсы покупки и продажи выросли на 1000 пунктов и составили, соответственно, 58000 и 59000 рублей.

### Заработная плата снизилась

**Средняя заработная плата в апреле в Беларуси составляла 3 669,3 тысячи рублей. Тем самым ее размер снизился, по сравнению с мартом, на 4,4%, сообщает Министерство статистики и анализа.**

Общая сумма задолженности по зарплате в мае достигла 1 128,9 миллиарда рублей (10,8% от общего фонда зарплаты за апрель). 70,6% этой задолженности приходится на колхозы и совхозы. Средний размер назначенной месячной пенсии достиг суммы в 1 475,3 тысячи.

**БелаПАН**

**НАВІНЫ**

### Начнется отправка в войска

**В ближайшее время Слонимский военкомат начнет отправку в войска наших ребят. Всего планируется призвать более 200 парней.**

По сообщению пресс-службы Министерства обороны, отправка молодого пополнения пройдет в два этапа. Большая часть призывников будет отправлена к месту прохождения срочной военной службы до 10 июля, остальные – на доукомплектование частей – с 10 по 20 августа. Летом 1998 года на срочную военную службу всего предполагается призвать около 17 тысяч граждан республики. Из них примерно 12 тысяч – на укомплектование непосредственно частей белорусской армии.

**С.Ё.**

### Вышыта, нібы намалявана

**У краязнаўчым музеі дзейнічае персанальная выстава самадзейнай мастачкі з Гродна Аляўціны Кавалеўскай.**

Усе яе работы вышыты на палатне мастацкай гладдзю.

Па словах нашага земляка, члена саюза мастакоў Беларусі Мікалая Бушчыка, які спецыяльна прыехаў на выставу з Мінска, карціны гродзенскай мастачкі вышыты так памайстэрску, што нагадваюць акварэльныя творы.

А некаторыя слонімцы, гледзячы на карціны "Восень" і "Сенакос у дажджлівае лета", пазнавалі нават на палотнах слонімскае наваколле. Уся экспазіцыя складаецца з 32 карцін.

### У Слоніме добрыя лёгкаатлеты

**У Гродна прайшлі спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы сярод школьнікаў. Гонар Слоніма абаранялі выхаванцы ДЮСШ-1, якія занялі 4-ае агульнакамандная месца.**

Лепшых вынікаў у асабістым заліку дабіліся вучань СШ №3 Міхаіл Русак (кіданне кап'я) і вучаніца СШ №7 Кацярына Сталбанава (трайны скачок).

Прызёрамі сталі таксама Святлана Арлоўская (СШ №3), Вікторыя Рэмез (СШ №2) і Кірыл Шухно (СШ №7).

Русак, Сталбанава, Арлоўская і Рэмез прымуць удзел у рэспубліканскіх юнацкіх гульнях, якія пройдуць у пачатку ліпеня ў Мінску.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Слонімскіх артыстаў пачуе ўся Беларусь

**Амаль год працягваўся рэспубліканскі фестываль "Беларусь — мая песня", у якім прымалі ўдзел і слонімскія самадзейныя артысты.**

Права ўдзельнічаць у заключным гала-канцэрце, які адбудзецца 5 ліпеня ў Мінску, заваявалі нашы юныя салісткі Юлія Шышко (СШ №2) і Алена Кананчук (СШ №8), а таксама ансамбль "Грымата" раённага дома культуры.

### Ва ўніверсітэт — без экзаменаў

24 механікі і 13 электрыкаў, якія закончылі вучобу на "4" і "5" у Жыровіцкім тэхнікуме, атрымалі права быць залічанымі без уступных экзаменаў на 3 курс Беларускага аграгэхнічнага ўніверсітэта.

### Медалістаў стала больш

Па дадзеных гарадскога аддзела адукацыі, сёлета сярод выпускнікоў школ горада прэдбачыцца каля 90 "залатых" і "сярэбраных" медалістаў. Летась іх было толькі 50.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Свята моладзі

**28 чэрвеня ў Беларусі ў чарговы раз будзе адзначацца Дзень моладзі.**

Як паведаміў "ГС" намеснік старшыні гарвыканкама Война Угрыновіч, з гэтай нагоды ў Слоніме ў гарадскім парку адбудзецца святкаванне з разнастайнымі атракцыёнамі, спаборніцтвамі па стральбе і дыскатэкай.

**Сяргей ЁРШ**

### Хто як косіць

**Па дадзеных сельгасупраўлення, на 22 чэрвеня ў раёне было скошана шматгадовых траў 72% да ўсёй плошчы.**

Напрыклад, у калгасе "Прагрэс", саўгасах "Перамажац" і "Слонімскі" касьбу практычна завершылі. А вось у аграфірме "Шчара" і калгасе "Кастрычнік" скошана траў толькі на палове ўсіх плошчаў, хаця лепшыя тэрміны для касьбы траў першага ўкосу, як сцвярджаюць спецыялісты сельгасупраўлення, ужоназыходзе.

У саўгасе "Перамажац" нарыхтавана сенажу ўдвая больш запланаванага. Выканалі план нарыхтоўкі сенажу калгасы "Чырвоны партызан" і " Рассвет".

Марудными тэмпамі ідзе закладка гэтага віду корму ў калгасе "Кастрычнік", дзе яго нарыхтавана ўсяго 17% ад запланаванага.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**ЗДАРЭННІ**

### Прычыны розныя — вынік адзін

**На мінулым тыдні ў раёне здарыліся два пажары.**

Ад удару маланкі згарэў хлеў жыхара вёскі Жыровічы Івана Кірыка, а ў Какошчыцах ад замыкання электраправодкі агнём быў знішчаны хлеў, які належаў жыхару вёскі Мікалаю Дабрыяну.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**ЗАГЛЯНЕМ НА РЫНОК**

Цены (в тыс.руб.)

| | 10.06 1998 | 24.06 1998 |
|---|---|---|
| апельсины | 45 | 48-50 |
| бананы | 75 | 75 |
| помидоры | — | 65 |
| чеснок | 65 | 60 |
| картофель мол. | — | 40 |
| молоко (1л.) | 7 | 7 |
| творог | 20 | 20-22 |
| масло сл. | 90 | 90 |
| яйца (1дес.) | 28 | 30 |
| свинина | 65-145 | 70-170 |
| сало солёное | 85-110 | 90-110 |
| мед | 210 | 200-210 |
| капуста | 40 | 20 |
| сметана | 28-30 | 28 |
| лимоны | 60-70 | 75 |
| клубника | — | 45 |
| телятина | 60-140 | 60-140 |
| черешня (1ст.) | — | 10 |
| земляника (1ст.) | — | 10 |
| черника (1ст.) | — | 7 |
| арбузы | — | 80 |
| лисички | — | 60 |
| дыни | — | 120 |
| огурцы | — | 30-35 |
| ячмень | — | 6-6,5 |
| редис (1пуч.) | — | 10 |
| морковь (1пуч.) | — | 15 |
| свекла (1пуч.) | — | 6 |
| лук зел. | — | 10 |



НАВІНЫ

## Фестываль вітаў слонімцаў

**На V фестывалі беларускай паэзіі і песні "Маладзечна-98" наш зямляк Аляксандр Зваровіч атрымаў дыплом першай ступені і падарунак — музычны цэнтр.**

Як стала вядома карэспандэнту "ГС", песні "Панна Каханне" і "Спакойнай ночы, спадары" у выкананні Аляксандра вельмі спадабаліся гледачам, журналістам, сябрам па конкурснай праграме і журы. Усе былі ўпэўнены, што гран-пры фестывалю будзе ўручаны менавіта Аляксандру Звяровічу. Але ў час цырымоніі гран-пры ўсё ж дастаўся салістцы ансамбля "Верасы" Вікторыі Алешка.

Дыпламанткай фестывалю стала і Вольга Змуршчык, вучаніца СШ №8.

**Міхась АКУЛКА**

## Белорусскому государству — 1000 лет

**Объединение белорусов мира "Бацькаўшчына" выступило с инициативой празднования 1000-летия белорусской государственности в июле 2000 года.**

Такое решение было принято на последнем заседании рады "Бацькаўшчыны". Участники заседания обсудили проекты обращения к соотечественникам "О праздновании 1000-летия белорусской государственности" и программы празднования, а также вопрос о создании общественного оргкомитета по проведению торжеств.

По мнению членов рады, празднование знаменательной даты будет способствовать патриотическому воспитанию белорусского народа и повышению авторитета Беларуси как древнего европейского государства. На заседании, в частности, отмечалось, что восстановление исторических мемориалов и увековечивание памяти выдающихся государственных деятелей Беларуси позволит создать те элементы атрибутики независимости, без которых трудно представить современную цивилизованную страну. "Это программа того, что должно сделать независимое государство, если оно желает им быть", — заявила председатель рады "Бацькаўшчыны" Анна Сурмач.

В ближайшие дни рада планирует распространить текст обращения к соотечественникам и содержание программы, а также утвердить состав общественного оргкомитета по празднованию 1000-летия белорусской государственности.

**БелаПАН.**



# ГОРА-МАЦІ

**У гарадскім судзе разглядалася справа жыхаркі вёскі Харашэвічы Надзеі Гузарык аб пазбаўленні яе мацярынскіх правоў.**

Перад членамі суда ў зале сядзелі чацвёра яе непаўнналетніх дзяцей — дзве дзяўчынкі і два хлопчыкі. Яны, здаецца, не зусім нават разумелі, чаго іх паклікалі сюды разам з маці. Пасля таго, як былі зачытаны характарыстыкі ад праўлення калгаса "Уперад" і Дзераўноўскага выканкама, стала зразумела, што прадстаўляе сабой Надзея Гузарык, якая нарадзіла на свет шасцёра дзяцей. Дакументы сведчылі, што гэтая жанчына з 1983 года злоўжывае алкаголем, стаіць на ўліку ў псіханеўралагічным дыспансеры, нідзе не працуе, чатырох непаўналетніх дзяцей не даглядае і іх выхаваннем не займаецца. Невядома, чым корміць маці сваіх дзяцей, калі на прысядзібным участку нічога не вырошчвае і ніякай хатняй жывёлы не трымае. У доме пануе беспарадак і бруд. Дзеці нават не ведаюць, што такое пасцельная бялізна. Падчас медыцынскага агляду ў дзяцей звычайна знаходзілі часотку і педыкулёз. Самыя малодшыя Каця і Ваня часта не хадзілі ў школу, бо былі занятыя пошукамі ежы. Іх маці часта знікала з дому на некалькі тыдняў, затым нечакана з'яўлялася і п'яная пачынала высвятляць адносіны з двума дарослымі сынамі, якія таксама нідзе не працуюць, але любяць выпіць.

Шчыра кажучы, я ніяк не мог паверыць, што Надзеі Гузарык усяго 45 гадоў. На выгляд ёй можна было даць усе 60. Ад жаночага яе аблічча амаль нічога не засталося: барвовы ад спіртнога твар, абыякавы позірк...

Я падумаў, колькі ж усяго прыйшлося перажыць за сваё кароткае жыццё бедным дзецям, якія, бадай, і не ведаюць, што такое матчына ласка.

Адзін за адным у судзе выступалі сведкі: прадстаўнікі раённага аддзела адукацыі, міліцыі, настаўнікі. І кожны з іх выказваў думку, што Надзея Гузарык не мае права быць маці гэтых няшчасных дзетак.

Іншая жанчына на месцы Гузарык залілася б горкімі слязьмі ад сораму, спадзяючыся, што ёй хоць крыху паспачуваюць удзельнікі судовага працэсу.

Ды не! Гузарык, наадварот, стала даказваць, што з'яўляецца не зусім дрэннай гаспадыняй і маці.

— Давайце разам зараз паедзем у Харашэвічы і паглядзім, які ў мяне парадак у хаце, — патрабавала яна перад судом.

Невядома, чым бы скончыўся разгляд гэтай справы, але выступіў у працэсе чарговы сведка — старшыня Дзераўноўскага сельсавета Уладзімір Фядута. Ён расказаў адзін выпадак, які, мабыць, і стаў галоўным аргументам пры вынясенні канчатковага рашэння суда.

— Пяць разоў на працягу апошніх месяцаў я наведваў сям'ю Гузарык, — сказаў Уладзімір Іванавіч, — і кожны раз бачыў відовішча, якое нават цяжка ўявіць. Я быў сведкам такога, ад чаго нават маё мужчынскае сэрца затрымцела. Уявіце: на падлозе ляжаць п'яныя, ледзь жывыя два старэйшыя сыны Гузарык, у хаце стаіць смурод ад алкаголю і тытуню. Самой гаспадыні дома не было ўжо больш як тыдзень. Яна паехала ў Новадзевяткавічы да знаёмага мужчыны. На кухні — першакласнік Ваня гатуе сабе ежу: наліў на патэльню ваду і лыжкай сыпле ў яе муку...

Потым Гузарык задалі пытанне, за якія сродкі яна набывае спіртное? І тая, не маргнуўшы вокам, адказала:

— Дык я ж атрымліваю грашовую дапамогу на дзяцей!

Рашэнне суда было адназначным: пазбавіць Надзею Гузарык мацярынскіх правоў. Вядома, дзяржава паклапоціцца пра яе непаўналетніх Наташу, Мішу, Ваню і Кацю і ўсім дасць прытулак і выхаванне.

А я падумаў: колькі яшчэ на Слонімшчыне ёсць вось такіх гора-мацярок, якія за кошт падаткаплацельшчыкаў атрымліваюць грашовую дапамогу на дзяцей і прапіваюць яе?

**Валянцін ЧУРЫЛА**

СЛОНІМШЧЫНА *нашы людзі*

Аднак краявіды блякнуць без чалавека працы. Толькі дзякуючы такім вось людзям, як гэта жанчына з вёскі Вялікія Шылавічы ( на цэнтральным здымку), і жыве яшчэ беларуская вёска. Можна толькі ўявіць, колькі ёй прыйшлося за свой век папрацаваць на зямлі...

Зямельцы-карміцельцы б'юць паклоны слугі Бога з Жыровіцкага манастыра (здымкі зверху і знізу). Людзі ў сутанах апрацоўваюць цяпер 170 гектараў сельгасугоддзяў.

(Працяг на 4-й стр.)

ГОРАД *невыдуманная история*

# Прошу слова

**В "Газеце Слонімскай" (№24, 12-18 июня 1998г.) была напечатана статья Сергея Ерша "Конфликт". Я возмущена однобоким освещением нашего конфликта, который продолжается более десяти лет.**

В доме №16 по ул. В.Крайнего я живу с 1975 года. Сарай уже тогда стоял и достался нам от прежних жильцов. Стоит он на законных основаниях, хотя был разговор, что "нелегально". Не знаю, откуда появились некоторые документы у моего соседа, как, например, и о "захвате полезной площади". Людей, которые там подписались, я не видела. Когда я, в соответствии с проектом, поставила в квартире стену, приезжали прежний председатель горисполкома В.Черный и директор коммунхоза К.Зубко. Они посмотрели документы и уехали.

Все я строила своими руками, и не ночью, как утверждает мой сосед Зайцев, а днем. Заборы поставила также законно. Поэтому и не давала их сносить до того, пока исполком не пересмотрел свои прежние решения.

Неправда, что Зайцев месяц выходил из дома через окно. На самом деле — всего несколько раз. Ему местные власти предложили сделать калитку и ворота со стороны отдела ЗАГСа, а он не хотел. Тогда приезжал мэр О.Лактюшин, архитектор В.Казырнович и сказали Зайцеву, что если он не может сделать выход самостоятельно, то это сделает за свои средства домоуправление.

До тех пор, пока ему не сделали выход со двора, я не заканчивала постройку забора. Миллион штрафа я также не получала — это неправда.

В марте 1997 года суд пересмотрел свое прежнее решение (на основании исполкомовского решения). Процесс проходил в напряженной обстановке, в ходе которого Зайцев сильно кричал, был не согласен. Но суд вынес оправдательный вердикт в отношении меня.

Никто не думал, что я добьюсь справедливости, что пойду по инстанциям до конца. Видимо, властям наш конфликт надоел, и они его наконец разрешили. И я считаю, что справедливо. Хотя пришлось многое пережить. Надеюсь, что сосед, наконец, оставит меня в покое.

**Екатерина СТЕПУРА**



**Изменения в движении маршрута автобуса № 12**

**(действует с 1 июля):**

**Магазин "Дружба":**7.20, 8.30, 9.36, 10.45, 11.43, 12.50, 14.00, 15.10, 16.20, 17.27, 18.35, 19.44, 21.25, 22.35.

**Больница:** 7.55, 9.03, 10.10, 12.16, 13.25, 14.35, 15.45, 16.53, 18.00, 19.10, 20.50, 22.00.

**Площадь Ленина:** 7.32, 8.42, 9.48, 11.55, 13.02, 14.12, 15.22, 16.32, 17.39, 18.47, 20.27, 21.37.

**"Универмаг":** 7.05, 8.18, 9.26, 10.33, 11.30, 12.39, 13.48, 14.58, 16.08, 17.16, 18.23, 19.33, 21.13, 22.23.

Газета Слонімская
*Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.*
*Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК.*

**Адрас рэдакцыі:**
*231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39.*
E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.

Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

*Падпісана да друку 25 чэрвеня 1998 г.*
*Час падпісання 8:00.*
*Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.*

*Падпісны індэкс 64042.*
*Наклад 6.700 экз.*
*Заказ №1925*

**ГОРАД** *нашы праблемы*

# БЛУКАННЕ ПА ПАКУТАХ

**У жыцці чалавека здараецца рознае. Бывае так, што вам з жонкай трэба падзяліць маёмасць. Ці лёгка гэта зрабіць?**

Ёсць два віды падзелу маёмасці: добраахвотны, праз гарадскую натарыяльную кантору (калі муж з жонкай знайшлі сумеснае вырашэнне гэтай праблемы) і судовы.

Судовы падзел лепей не выбіраць, бо можна застацца, як гаворыцца, у адной кашулі. За ўсё: і за кватэру, і за лыжку вам прыйдзецца заплаціць дзяржаве дзесяць працэнтаў ад іх кошту. Акрамя таго, ён адбярэ шмат часу і здароўя. Дык вось, напрыклад, вам з жонкай належаць непрыватызаваная кааператыўная кватэра і непрыватызаваная дача. З дакументамі, якія далі вам права валодаць гэтай маёмасцю, вы накіроўваецеся ў натарыяльную кантору. А там стаіць чарга. Бывалыя людзі вам ахвотна растлумачаць, што каб трапіць да натарыуса, чаргу трэба займаць у шэсць гадзін раніцы.

А калі вы нарэшце трапілі ў кабінет, дзе ветліва сустрэне стомлены натарыус і паведаміць, што тыя дакументы, якія вы некалі атрымалі на права валодання маёмасцю, цяпер для падзелу не падыходзяць. Вы стаіце, як вол, аглушаны абухам, а натарыус хуценька, каб не траціць свой час, піша на паперы, якія дакументы вы павінны прынесці ў наступны раз.

На кватэру:

1. Рэгістрацыйнае пасведчанне БТІ (бюро тэхнічнай інвентарызацыі)
2. Даведка БТІ.
3. Копія асабістага рахунку з домакіраўніцтва.

На дачу:

1. Рэгістрацыйнае пасведчанне БТІ.
2. Даведка БТІ.
3. Даведка землеўладкавальніка раёна, што зямля не выкуплена.
4. Даведка раённай натарыяльнай канторы аб адсутнасці арыштаў і забарон на дачу.

Разважыўшы, што больш за ўсё дакументаў трэба браць з БТІ, вы таропка кідаецеся туды. Але і там вас чакаюць і чарга, і стомленыя работнікі. Вы займаеце месца ў канцы чаргі і павольна прасоўваецеся да стала, у душы цешачы сябе надзеяй: "Зараз я атрымаю аж чатыры патрэбныя мне дакументы з сямі".

Дабраўшыся да стала работніка БТІ, вы спяшаецеся яму свой спіс і вымаўляеце:

— Мне трэба ўзяць у вас гэта, гэта, гэта і гэта.

Работнік БТІ хмурыць бровы.

— Спачатку прынясіце дзве даведкі:

а) ад старшыні жыллёвага кааператыва, што ваша кватэра выкуплена,

б) ад старшыні садовага таварыства, што з'яўляецеся ўладальнікам дачнага ўчастка і ўсяго таго, што на ім размешчана.

Праклінаючы ўсё на свеце, вы шукаеце гэтых важных для вас людзей. А іх не так проста застаць дома ці на працы. Непрыкметна прабягае тыдзень.

Адстаяўшы чаргу, вы зноў каля стала работніка БТІ, працягваеце яму патрэбныя даведкі.

— Цяпер я атрымаю вашы даведкі? — з надзеяй пытаецеся.

— Не. Вам неабходна прыватызаваць дачу і кватэру. А для гэтага наш работнік павінен абмераць і зрабіць адпаведныя дакументы. Такі закон.

У думках вы лаеце і закон, і начальства, але, панурыўшыся, шукаеце легкавушку, каб хутчэй завезці работніка БТІ абмераць кватэру і дачу.

Праходзяць тыдзень, другі. Вашы дакументы афармляюцца, але вам няма калі сумаваць. Вы спяшаецеся за іншымі даведкамі ў домакіраўніцтва, да землеўладкавальнікаа раёна...

Урэшце, вы маральна амаль знішчаны.

"Блуканне па пакутах! Блуканне па пакутах!" — паўтараеце вы і ліхаманкава думаеце, дзе знайсці грошы на ўсе гэтыя даведкі, бо і ў БТІ, і ў натарыяльнай канторы за афармленне іх трэба выкласці з кішэні па мільёну з хвосцікам...

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**



**ГАРТАЮЧЫ СТАРЫЯ ГАЗЕТЫ**

## Свайго не даруем!

Зборшчык грошаў за ўезд у горад Слонім выходзіць аж за горад, дзе сустракае падводы, ды распраўляецца з безабароннымі сялянамі, як сам хоча. Бо хадзіць па рынку кепска, а за горадам збірэ яшчэ цэлы абоз фурманак, ды грабіць тых, у каго няма грошаў, каб заплаціць "падатак". Забірае, што ўгледзіць на возе, або трымае доўгі час за горадам.

У чацвер, 26 жніўня, гэты зборшчык Рыгор Калеснікаў, запыніў селяніна з вёскі Сяргеевічы, Чамяроўскай гміны, Пётру Стулевіча, у якога не было чым заплаціць за ўезде, і пачаў гнаць каня на бок. Малады конь, напалохаўшыся, скочыў у роў, што пры шасэ, ды амаль не скалечыў двухгадовае дзіця, якое сядзела на возе. Тут заступіліся едучыя людзі ды выратавалі Стулевіча ад самаволі зборшчыка, які ўдарыў яго кіем на руцэ. Тут-жа пакрыўджаны Стулевіч звярнуўся да паліцыянта (№700), каб той пры сведках напісаў пратакол за пабой, але паліцыянт адмовіўся і паслаў у паліцэйскі камісарыят, які месціцца на Уланскай вуліцы, гаворачы, што там напішуць пратакол. Але адтуль пагналі, сказаўшы "ідзі вон да д'ябла". За гэтым прышлося звярнуцца да пана старосты, але і там з цяжкасцю допусцілі да старосты, таксама як і ў камісарыяце начальнік спраў не хацеў звярнуць увагі, ды не даваў пропуску да старосты на скаргу. Урэшце далажылі старосце, і той даў загад, каб напісаць пратакол на заяву Стулевіча, што і было зроблена.

З гэтакай цяжкасцю прышлося дабівацца, каб прынялі скаргу, якая вызвана самавольствам зборшчыка Калесніка-ва. Так павінны дабівацца свайго ўсе пакрыўджаныя! Мы не можам маўчаць на розныя здзекі над намі. Трэба заўсёды дабівацца, каб скарга была прынята.

**Б.**

**"Народная справа" (Вільня), № 17, 15 верасня 1926 г.**





**СЛОНІМШЧЫНА** *нашы людзі*



Тым часам горад жыве сваім жыццём. На прадпрыемствах працуюць, а на рынку гандлююць. Цяпер самым хадавым таварам, мабыць, з'яўляецца цукар. Сёння, калі ягадныя градкі сталі чырвонымі ад сакавітых трускалкаў, салодкі прадукт узняўся да ўзроўню стратэгічнага.

Але нарыхтоўка кампотаў і варэнняў хвалюе не ўсіх. Вось гэтай маладой жанчыне (на здымку зверху) усё да лямпачкі. Перакуліла парачку-другую кілішкаў гарэлкі і салодка заснула проста за сталом у кафэ „Шчара".

Так і жывём.















**А ЯШЧЭ БЫЎ ТАКІ ВЫПАДАК**

# Як хітрага перахітрылі




Васілю Апалоніку не пашанцавала: падчас моцнага ветру на ягонай дачы ў Якімавічах са страхі сарвала ўвесь шыфер. Набыўшы новы шыфер, Васіль па рэкамендацыі свайго шваґра, дагаварыўся з майстрамі, якія жывуць на Рэзках. Але праблема была ў тым, што будаўнікі аказаліся аматарамі выпіць. Таму за працу з імі трэба было разлічвацца гарэлкай.

— Толькі глядзі, не паднось мужыкам чарку пакуль яны не зробяць работу, — папярэдзіў Апалоніка сваяк.

— Трасцы яны ў мяне нап'юцца, пакуль работу не зробяць. Не так проста мяне абвесці вакол пальца, — адказаў Васіль.

Захапіўшы з сабой прыгатаваны трохлітровы слоік самагонкі, ён паімчаў па ўказаным адрасе на "Фордзе". А хвілін праз 30 Апалонік прывёз у Якімавічы трох майстроў. Тыя агледзелі фронт працы і запэўнілі гаспадара, што да вечара ўсё зробяць. За што запатрабавалі трохлітровік самагонкі.

Узрадаваны Васіль ажно чуць не падскочыў ад задавальнення, што ўгадаў памер платы за рамонт страхі.

— Згодзен, хлопцы. Толькі да канца дня зрабіце ўсё, як трэба. Вось ён, ваш слоік, віп'еце сабе ўвечары. Я пасля работы прыеду і добрай закусі прывязу, — сказаўшы так, Апалонік павёў мужыкоў у хату і на іх вачах паставіў самагонку ў металічную скрынку, накшталт сейфа. Потым зачыніў яе на замок і пайшоў да машыны.

Незадаволеныя майстры асалавелымі вачыма глядзелі ўслед "Форду", на якім іх наймальнік паехаў у Слонім, бо мелі намер пахмяліцца пасля ўчарашняга.

— Ага, думалі я такі дурны — аддам ім магарыч у рукі. Не, даражэнькія, не выйдзе! Зробіце страху — увечары піце хоць да покату, — разважаў Апалонік, едучы ў машыне.

Цалюткі дзень сябры Васіля на працы рагаталі з ягонай удалай выдумкі. Непрыкметна праляцеў працоўны дзень і Васіль, захапіўшы дома прыгатаваную жонкай закуску, пагазаваў на Якімавічы. Не даехаўшы да сваёй дачы метраў трыста, ён убачыў, што хата як стаяла не пакрытая, так і засталася стаяць. Гэта яго вельмі занепакоіла.




На падворку шыфер ляжаў не кранутым. Дзверы ў хаце былі адчыненыя насцеж, а на ложку мярцвецкім сном храплі майстры.

Перш-наперш Васіль кінуў позірк на свой самаробны сейф. Не, усё было ў парадку, ён быў зачынены. Аднак чамусьці на стале стаяў эмаліраваны тазік, у якім жонка звычайна мыла агуркі. Нахіліўшыся над ім, ён пачуў рэзкі пах сівухі. А калі адамкнуў замок сейфа,



адразу ўсё зразумеў: там ляжала толькі шкло ад слоіка з самагонкай.

Пляснуўшы сабе далоняй па патыліцы, Апалонік аж заскрыгатаў зубамі ад злосці. Аказваецца, мужыкі, пакутуючы ад пахмелля, страсянулі сейф, ад гэтага слоік разбіўся, а самагонка ўся сцякла ў тазік.

Прыйшлося Васілю п'яных майстроў зацягнуць у машыну і везці на Рэзкі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

АСОБА

*нашы землякі*

# "ЗА ВОЛЮ" – ВОЛІ НЕ ВІДАЦЬ

**Наша зямлячка, беларуская паэтка і журналістка Ганна Шарамецьева праследуецца ў Беларусі за палітычныя перакананні.**

### "Яны мой крыж растапталі"

Славутая беларуская паэтка з Зэльвы Ларыса Геніюш (1910-1983г.г.) ніколі не мела грамадзянства БССР, яна была і да смерці засталася грамадзянкай Беларускай Народнай Рэспублікі. Шмат над ёй здзекаваліся, чаго ёй толькі не казалі, што ёй толькі не рабілі – усё вытрымала гэтая легендарная і мужная жанчына.

Сёння падобныя здзекі церпіць новы адданы прыхільнік Беларускай Народнай Рэспублікі Ганна Шарамецьева. А пачалося ўсё з таго самага сакавіка 1995 года, калі наша зямлячка аднавіла, пасля амаль 40-гадовага перапынку, і стала рэдагаваць беларускую газету "Za volu" ("За волю"). У свет выйшла ўсяго два нумары. Але гэтага хапіла, каб Ганну Шарамецьеву залічылі да ліку недабранадзейных. Спачатку яе пазбавілі журналісцкай працы, пасля дабраліся да сям'і і мінскай прапіскі. Пачаліся цкаванні, пошук кампрамату, дзяцей сталі жудасна застрашваць. Дарэчы, у студзені 1994 года пра сям'ю нашай зямлячкі па Беларускім тэлебачанні паказалі перадачу. Як пра добрую сям'ю! А муж Ганны Уладзіміраўны прысвяціў ёй кнігу "Ганне і Кліо". Трое дзяцей былі шчаслівыя і вельмі ганарыліся сваёй матуляй. І раптам – муж кідае яе, а дзеці адракаюцца ад маці, акрамя старэйшага 26-гадовага сына Уладзіміра. Ганна Шарамецьева з сынам застаюцца без жылля, прапіскі, без працы.

Кожны чалавек, дзе б ён не жыў і не працаваў, павінен быць падрыхтаваны бараніць сябе. Бараніла сябе і былая сланімчанка. Хаця ў наш час гэта нялёгка рабіць. Немагчыма ўсяго апісаць, што прыйшлося перажыць Ганне Шарамецьевай. Яна збірала аб'едкі на Камароўскім рынку, галадала, не было дзе жыць і што апранаць. Але знаходзіліся людзі, якія ёй дапамагалі прыйсці ў сябе, каб не страціць чалавечае пачуццё і аблічча.

### "У Слоніме пахне хлебам"

Не так і шмат у Беларусі здольных паэтак і журналістак, каб не заўважаць іх знікнення з творчага небасхілу. Сказаць, што наша зямлячка Ганна Шарамецьева (дзявочае прозвішча Іванова) знікла назаўсёды – нельга, бо па-ранейшаму яна шмат піша, змагаецца і, дзякаваць Богу, жыве.

Нарадзілася Ганна Шарамецьева ў 1950 годзе ў Слоніме. Вучылася ў пятай сярэдняй школе. Бацька Уладзімір Міхайлавіч выкладаў гісторыю ў Міжвыцкай сярэдняй школе, а маці Марыя Васільеўна працавала фельчаркай. Калі бацька паступіў у аспірантуру пры Інстытуце этнаграфіі Акадэміі навук Беларусі, іх сям'я пераехала жыць у Мінск. Там Ганна скончыла філфак Белдзяржуніверсітэта, пасля вучылася ў Маскве ў аспірантуры па спецыяльнасці этнасацыялогія (нацыянальныя адносіны). Пэўны час працавала ў беларускім выдавецтве "Навука і тэхніка", карэспандэнтам аддзела школ "Настаўніцкай газеты". Да 25 сакавіка 1995 года Ганна Шарамецьева была рэдактарам аддзела тэарэтычна-метадалагічных праблем беларускага навуковага часопіса "Адукацыя і выхаванне". Адзіная з калектыву гэтага выдання мела надбаўку да аклада за прафесіяналізм.

### "Адзінота мяне пакахала"

Акрамя журналістыкі наша зямлячка захапляецца паэзіяй. Першыя вершы Ганна Шарамецьева напісала яшчэ ў студэнцкія гады. А ў 1988 годзе ў Мінску выйшаў калектыўны зборнік маладых паэтаў Беларусі "Лагодны промень раніцы". Там была змешчана вялікая падборка ейных вершаў пад загалоўкам "Вясковы аўтобус". Яна вызначалася арыгінальнасцю, яркасцю і відавочнай паэтычнай акрыленасцю. Паэтка імкнулася данесці да чытачоў тое, аб чым гаварыла яе "адзінота", даць аматарам паэзіі адчуць, што ж хаваецца за маўклівасцю, адчуць праз падтэкст тое, што паводле асацыяцый, выкліканых канкрэтна-вобразнай асновай вершаў, само павінна прыйсці да чытачоў:

І прадчуванні  
кружаць галаву.  
І я гляджу  
святочнымі вачыма.  
— Як мыслю, то жыву, -  
сказаў мужчына.  
А я жынчына.  
Мару — дык жыву!

Ганна Шарамецьева шмат піша для дзяцей. Вынікам гэтага стаў зборнік вершаў "Еду ў Сноў" (Мн., 1989 г.). Цэнтральнае месца ў ім займае вялікі верш-п'еска "Батлейка запрашае". Цудоўны твор, яго некалькі разоў перадрукоўвалі іншыя выданні, некаторыя нават пад другімі прозвішчамі. Але паэтка не крыўдзілася, а жадала ўсім дзецям:

Дружна жывіце!  
Хутка расціце!  
Край свой любіце!

Любоў і адданасць да роднай Беларусі жыве ў кожным радку, страфе, вершы новага паэтычнага зборніка "Тут", які саматужным спосабам яна выдала ў мінулым годзе. Эпіграфам зборніка па праву могуць быць такія радкі:

Ты можаш мяне  
не любіць, не кахаць,  
Ты можаш мяне  
выпрабоўваць бясконца.  
Жыві векавечна.  
Уздымецца сонца  
Над сцягам Пагоні,  
якой не стрымаць.

### "Мая краіна – не райскі сад"

Цяпер Ганна Шарамецьева жыве ў вёсцы ў Мінскім раёне з падпіскаю аб нявыездзе. Яна пачала зноў ставіцца на ногі. Выйшла замуж за другога чалавека, якому прапанавалі добрую працу ў Цюмені, але туды іх сям'ю не пускаюць. Ужо дваццаць восем разоў гэтую жанчыну выклікалі ў суд. У чым яе толькі не абвінавачваюць, куды толькі не ўцягваюць. Яна 17 разоў пісала тлумачэнні для міліцыі. Але ўсё гэта марна.

За тры гады пасля рэдагавання газеты "Za volu" Ганна Шарамецьева неаднаразова мела адміністрацыйныя спагнанні. Трое сутак адседзела ў прыёмніку-размеркавальніку на вуліцы Акрэсціна ў Мінску, тройчы была збітая, шмат разоў аштрафаваная і г.д. Разам з ёю церпіць здзекі і сын Уладзімір. Там, дзе ён жыве і прапісаны, яго збіваюць. Так рабілі і з Ганнай... Уладзімір вучыцца на трэцім курсе Беларускага эканамічнага універсітэта і працуе ахоўнікам на аўтастаянцы. Мае добрых сяброў і захапляецца музыкай.

### "Я тут жыла, тут трывала, тут буду жыць"

Нават цяжка падумаць, што ў нас сёння існуюць праследаванні грамадзян за палітычныя перакананні! Але за што ўжо тры гады праследуецца паэтка і журналістка Ганна Шарамецьева? Тым больш, што даўно не выходзіць орган партыі Свабоды – газета "Za volu". А можа хапіла тых двух нумароў? "Як бы там ні было, я не шкадую пра свой выбар. Адно толькі турбуе, што позна раскрыліся мае вочы – бел-чырвона-белы сцяг убачыла ўпершыню ў 1988 годзе і нават не ведал што гэта за сцяг... Тады, на Дзяды, пра яго й дазналася...", – гаворыць Ганна Шарамецьева ў сваім лісце, які напісала ў газету "Беларуская Маладзёжная" (№22, 12.06.98). Мне толькі застаецца пажадаць нашай зямлячцы "святла людской дабрыні!". Гэта радок з яе верша.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

УСПАМІНЫ

# ПАЧАТАК ШЛЯХУ

**Сёння мы пачынаем друкаваць мемуары старэйшага паэта Слонімшчыны Анатоля Іверса (Івана Дарафеевіча Міско).**

...Бацькі і дзяды мае паходзілі з сялян. А сяляне, як вядома, складалі аснову беларускага народа, былі захавальнікамі яго мовы і культуры. Ужо тады, на пачатку майго шляху ў жыццё, бацька часам адыходзіў ад сельскай гаспадаркі і ездзіў на пабочныя работы ў горад: на будаўніцтва чыгункі, шасэйных дарог. Таму ў яго лексікон траплялі словы з рабочага асяроддзя. Але гэтыя словы не разбівалі, а хутчэй узбагачалі беларускую мову. І калі ён запрагаў каня, то ніколі не казаў "хомут", а чыста па-беларуску – "хамут". Але калі часам пісаў пісьмы з-пад Бераставіцы ці Гадуцішак, абавязкова ставіў цвёрды знак (ъ) у канцы слова з канчаткам на зычную літару. Гэта была не ягоная віна, а наша бяда. Тады не было беларускіх школ, праводзілася русіфікацыя.

Не ведаю, калі і дзе бацька вучыўся. Аднак на "пабочных работах" выконваў абавязкі дзесятніка. Не маглі без майго бацькі абыйсціся і польскія паны на будаўніцтве мастоў на невялікіх рэчках і шлюзаў на рацэ Шчара. Бо часам інжынеры збудуюць масток, а паводка яго вясною перакіне дагары нагамі...

Нарадзіўся я ў вёсцы Чамяры Слонімскага раёна 15 траўня 1912 года. Першы мой шлях быў ад хаты да гумна, якое стаяла далекавата, бо адкінулі яго вузкія прысядзібныя ўчасткі. І гэты шлях з'яўляўся для мяне выпрабаваннем ног і памяці. І таму, мабыць, для двухгадовага дзіцяці найбольш за ўсё засталася ў памяці тая доўгая дарожка.

На жаль, далейшае развіццё памяці на фоне роднай прыроды перапыніла першая сусветная вайна. З эвакуацыі аж у Казанскую губерню застаўся ў памяці пераезд цягніком над вялікай ракой, пэўна над Волгай. Праз акно бачыў, як па рацэ плыла лодка, якая нагадвала жабу ў вадзе.

Заехаўшы на новае месца жыхарства, найбольш помню дзеда. Ён рабіў розныя дзежкі, кадушкі. Абрэзвау канцы клёпак. З гэтых абрэзкаў-"вагонаў" я складваў на падлозе доўгія чынунчыя саставы.

А калі з матуляй пераехалі да бацькі ў Кіеў, дзе ён працаваў на будаўніцтве чыгункі, адлюстраваліся новыя малюнкі. Бацька сяды-тады браў мяне на работу. Ехалі дрызінай, што было вельмі прыемна. На рабоце аднойчы здарыўся страшны выпадак. У абедзены перапынак, засланіўшыся ад ветру, сядзелі у кар'еры, елі чырвоныя памідоры з салам. Раптам недалёка ад нас абрушылася зямля з канём, які пасвіўся зверху. Грабар Міна Бажэжа гэты страшнаваты выпадак перавёў у жарт:

– Якая халера кабыламі кідаецца?

Вярнуўшыся з-над дняпроўскай поймы, часта заставалі засмучаную маці. Ёй вельмі хацелася дадому. Але выехаць было немагчыма, бо цягнікі не вазілі бежанцаў. Сум маці перадаваўся мне, бо я люблю яе: ціхую, добрую.

І як не ўспомніць словы слонімскага паэта Сяргея Дарожнага:

Беларусь мая,  
слёзаў зліткі!  
Мы ўцяклі ад цябе  
так далёка...

Неўзабаве бацька, вярнуўшыся з працы, пацешыў нас:

– Ну, рыхтуйцеся, заўтра паедзем дадому!

І мы паехалі возам, які купіў бацька разам з канём каштанавай масці. Колькі дзён ехалі – не ведаю. Толькі моцна ўрэзалася ў памяць, як ноччу заехалі ў Ружанскую пушчу. Жудасным плачам галасілі совы, здавалася, што нехта страшны душыць людзей. Лес праехалі без ніякіх здарэнняў. Папасвілі, пакармілі каня, перакусілі самі – і далей у дарогу. Пад вечар вітала нас родная вёска.

На Радзіме радасці было мала. Хата стаяла на сваім месцы, а навокал буяла лебяда і іншае быллё. Гумно згарэла. І да таго месца, дзе яно стаяла, ужо не было ніякай пратаптанай сцяжынкі.

Запасы прадуктаў, што прывезлі з Украіны, за зіму скончыліся, прыйшлося галадаць, вясной варыць і есці тую лебяду, што падымалася ўгару.

Вясною работы хапала. На палосках церабілі беразняк, што за 4 гады (прыехалі восенню 1918 года) шуганіў вышэй чалавечага росту. Сёетое пасеялі, пасадзілі крыху купленай у дамаседаў бульбы, парэзаўшы на часткі, колькі ў бульбінах было вочкаў. І чакалі ўраджаю.

У 1915 годзе ўцяклі ад немцаў. Ці дакладней сказаць, нас выгналі царскія стражнікі. Вярнуўшыся ў 1918 годзе, убачылі тых самых немцаў. Такім чынам адбыліся неміласэрныя жарты. Бо каб сядзелі дома, не галадалі б.

Аднак і такое становішча хутка змянілася, што ніяк не спрыяла стабілізацыі сямейнага жыцця. 14 студзеня 1919 года немцы пакінулі, а бальшавікі занялі Слонім і пачалі ўводзіць свае парадкі. Праз паўтара месяца (2 сакавіка) "чырвоных" замянілі "белапалякі".

Але і яны доўга не ўтрымаліся на нашай шматпакутнай зямлі. 20 ліпеня іх выгналі са Слонімшчыны бальшавіцкія войскі. Ды і савецкая ўлада прабыла тут крыху больш за чатыры месяцы. 27 лістапада 1920 года Слонім перайшоў у рукі пілсудчыкаў. Акупацыя Заходняй Беларусі трывала ледзь не 20 гадоў, бо па так званаму Рыжскаму мірнаму дагавору была аддадзена Польшчы.

У народзе гавораць, што новая мятла па-новаму мяце. Ледзь не вымела на той свет і майго бацьку. Я ўжо казаў, што бацька ўмеў чытаць і пісаць па-руску. Вось бальшавікі і паставілі яго сакратаром Чамяроўскага валаснога савета. Паны ж пачалі арыштоўваць і расстрэльваць былых савецкіх служачых. Група карнікаў польскай жандармерыі ўварвалася і ў нашу хату. Але бацька непрыкметна выскачыў праз акно ў суседскі агарод.

Выратаваў бацьку знаёмы яўрэй Квінт, які вёў перамовы з польскімі ўладамі і забраў за гэта нашага кармільца – каштанавага каня. З лесу бацька вярнуўся зарэсцены да непазнавання.

**Анатоль ІВЕРС**

***(Працяг у наступным нумары)***



**ФУТБОЛ** *высшая лига*

# БУДЕМ БОРОТЬСЯ ЗА КАЖДОЕ ОЧКО...

Как уже писала "ГС", в футбольном клубе "Коммунальник" произошла смена главного тренера. Слонимскую команду возглавил Яков Шапиро. К своим обязанностям он приступил 19 июня. Поэтому домашний матч с "Гомелем" будет его "боевым крещением". Накануне игры Яков Шапиро согласился ответить на вопросы нашего корреспондента:



**Справка "ГС": Яков ШАПИРО родился в 1961 году в Минске. Окончил футбольную школу "Динамо". Служил в армии, в воздушно-десантных войсках. В 1987 году заочно закончил отделение футбола института физкультуры. В 1985 г. создал в Минске футбольный клуб "Атака", с которым работал до конца 1997 года. Недавно был приглашен на тренерскую работу в латвийский клуб "Вентспилс". За день до подписания контракта с этим клубом изменил свое решение и согласился стать главным тренером "Коммунальника".**

***— Яков Михайлович, наверное, нелегко было Вам решиться возглавить слонимскую команду? Ведь "Коммунальник" — аутсайдер чемпионата...***

— Не важно, что это аутсайдер. Есть пример, когда известный тренер Рехагель принял "Кайзерслаутен", когда этот немецкий клуб "скатился" в первую лигу. После ударной работы он вывел команду в Бундеслигу и она стала чемпионом Германии. Вот на эту команду мы будем ориентироваться.

***— Устраивают ли Вас условия работы, предложенные в Слониме?***

— Пока меня все устраивает, о чем мы договорились, скажем так, на 90%. Идеальной ситуации не бывает... Я выбрал Слоним. Белорусский футбол мне ближе латвийского.

***— В одной из спортивных газет прошла информация, что Вы собираетесь пригласить в Слоним трех игроков борисовского БАТЭ...***

— Их будет больше. Я уже сейчас могу сказать, что на сегодняшний момент (20 июня — **С.Ё.**), после переговоров, в команде "железно" будет 13 новых игроков. И не только из БАТЭ. Фамилии их пока не называю. Скажу только, что среди них четыре футболиста играют в молодежной сборной страны.

***— На Ваш взгляд, какая линия в "Коммунальнике" самая слабая и требует усиления?***

— Защита. Не вратарь, а именно защита. Потому что в защитную линию входит и вратарь. Я считаю, что в "Коммунальнике" самая сбалансированная линия — атака. Здесь есть Савонь, Татарашвили, Савицкий. Тем не менее, к ним в помощь подключим еще 3-4-х игроков. Причем таких футболистов, которые могут играть, как минимум, в двух позициях. Это одно из наших главных требований к пополнению.

А вообще, футболист должен играть на любой линии, чтобы у тренера была возможность варьировать составом... Например, сейчас мы присматриваемся к Отлетову из минского "Торпедо". Он может одинаково хорошо играть в нескольких позициях... Какие-то особенности универсального футболиста должны присутствовать в каждом игроке.

***— Когда появятся в команде новички?***

— Примерно через неделю. 12 июля наша команда выезжает на 12-дневный сбор в Стайки (спортивная база под Минском — **С.Ё.**). Вопрос уже решен. Там мы будем работать с тем составом, который выйдет на поле во втором круге.

***— В интервью газете "Прессбол" Вы заявили, что в "Коммунальнике" вводится «военное положение»...***

— Так называемое "военное положение" вводится не столько в отношении футболистов, в плане, например, тренеровочного процесса. Тут имеется в виду мобилизация всех сил внутри нашего клуба, чтобы свободная минута рабочего времени не терялась зря. Ведь, чтобы команда вышла из кризиса, необходима концентрация. Нужно, чтобы весь коллектив был одержим одной идеей: как вывести команду из трудного положения. Только мобилизация, которая начинается с дисциплины, сможет решить эту задачу. Именно, с внутренней дисциплины, с дисциплины в быту. Если мы вне футбольного поля будем правильно организованы, то и во время матча будем всегда собраны и готовы к борьбе. В футболе мелочей не бывает.

***— Яков Михайлович, на что надеяться болельщикам "Коммунальника" в этом сезоне?***

— Видите ли, я не волшебник... Первоначально, еще зимой, велись переговоры, что я возглавлю команду на старте этого чемпионата. Если бы это было так, тогда бы я нес полную ответственность за сегодняшнюю ситуацию. Хотя и сейчас я не собираюсь "вешать собак" на кого-то. Просто надо отрезать то, что было и идти вперед. Конечно, нужно взять на вооружение все хорошее.

Могу сказать одно, что на каждой тренеровке, в каждом матче буду требовать сверхотдачи от каждого футболиста. Будем бороться за каждое очко... Ребята должны поверить в свои силы, тогда мы обыграем и "Славию" и минское "Динамо".

**Сергей ЁРШ**

# ПРОИГРАЛИ ПОЛЕШУКАМ

**Славия (Мозырь) — Коммунальник (Слоним) — 2:0**

Мозырь. 18 июня. Стадион "Юность". 2100 зрителей.

Судья Г. Якубовский (Минск).

Коммунальник: Киркиж, Хмелев, В.Дегиль, А.Дегиль (к), Дым, Янковский, Пашкевич (Киреня, 65), Савицкий (Савонь, 54), Феоктистов, Колядчик (Шупилов, 78), Татарашвили.

Голы: Суховеев (24), Денисюк (63).

Предупреждения: Вавилов, Слесарчук ("Славия"), Хмелев («Коммунальник»).

**Конкурс "ГС" и ООО "Телкон"**: лучший игрок — нет, бомбардир — Савонь (2), лучший новичок — нет.

## РЕЗУЛЬТАТЫ ОСТАЛЬНЫХ МАТЧЕЙ ТУРА

| | |
|---|---|
| Торпедо — Локомотив-96 | — 0:1 |
| Неман — Нафтан-Девон | — 1:0 |
| Торпедо-Кадино — Шахтер | — 1:1 |
| БАТЭ — Динамо Бр | — 6:0 |
| Гомель — Молодечно | — 1:0 |

## ТУРНИРНАЯ ТАБЛИЦА

**ПОСЛЕ 12-ГО ТУРА**

| | | И | В | Н | П | М | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Днепр-Трансмаш (Могилев) | 11 | 8 | 1 | 2 | 28-6 | 25 |
| 2. | Торпедо (Минск) | 12 | 7 | 4 | 1 | 22-6 | 25 |
| 3. | БАТЭ (Борисов) | 12 | 6 | 3 | 3 | 22-13 | 21 |
| 4. | Локомотив-96 (Витебск) | 12 | 6 | 3 | 3 | 14-8 | 21 |
| 5. | Торпедо-Кадино (Могилев) | 12 | 6 | 3 | 3 | 18-14 | 21 |
| 6. | Гомель | 12 | 6 | 3 | 3 | 14-11 | 21 |
| 7. | Славия (Мозырь) | 12 | 6 | 2 | 4 | 17-17 | 20 |
| 8. | Динамо (Минск) | 11 | 6 | 1 | 4 | 15-10 | 19 |
| 9. | Белшина (Бобруйск) | 11 | 5 | 3 | 3 | 17-6 | 18 |
| 10. | Динамо-93 (Минск) | 11 | 4 | 4 | 3 | 17-13 | 16 |
| 11. | Неман (Гродно) | 12 | 4 | 3 | 5 | 9-16 | 15 |
| 12. | Динамо (Брест) | 12 | 4 | 1 | 7 | 12-20 | 13 |
| 13. | Шахтер (Солигорск) | 12 | 3 | 4 | 5 | 10-19 | 13 |
| 14. | Нафтан-Девон (Новополоцк) | 12 | 2 | 2 | 8 | 11-23 | 8 |
| 15. | Молодечно | 12 | 1 | 0 | 11 | 8-27 | 3 |
| 16. | Коммунальник (Слоним) | 12 | 0 | 3 | 9 | 5-30 | 3 |

**СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98**

## РАСПИСАНИЕ ДВИЖЕНИЯ ПРИГОРОДНЫХ ПОЕЗДОВ

**по станции Барановичи-Полесские на 1998-99 г. (введено 24 мая 1998 г.)**

| № | НАПРАВЛЕНИЕ | ДНИ КУРС. | ОТПР. | ПРИБ. |
|---|---|---|---|---|
| 6211 | Слуцк-Барановичи | ежедн. | 5-04 | 7-40 |
| 6215 | Слуцк-Барановичи | ежедн | 17-31 | 20-08 |
| 6231 | Барановичи-Лида | ежедн | 5-20 | 7-50 |
| 6233 | Барановичи-Лида | ежедн | 8-30 | 11-31 |
| 6891 | Барановичи-Лида | ср, пт, сб, вс | 12-15 | 14-42 |
| 6235 | Барановичи-Лида | ежедн | 17-12 | 19-45 |
| 6237 | Барановичи-Лида | ежедн | 20-20 | 23-19 |
| 6232 | Лида-Барановичи | ежедн | 4-10 | 7-12 |
| 6234 | Лида-Барановичи | ежедн | 8-40 | 11-10 |
| 6292 | Лида-Барановичи | ср, пт, сб, вс | 13-00 | 15-33 |
| 6236 | Лида-Барановичи | ежедн | 16-35 | 19-40 |
| 6238 | Лида-Барановичи | ежедн | 20-40 | 23-20 |
| 6039 | Барановичи-Волковыск-Гродно | пт | 22-33 | 4-22 |
| 6605 | Барановичи-Волковыск-Гродно | пт, сб, вс | 13-58 | 17-59 |
| 6606 | Гродно-Волковыск-Барановичи | пт, сб, вс | 18-15 | 22-15 |
| 6038 | Гродно-Волковыск-Барановичи | вс | 22-25 | 4-10 |
| 6031 | Барановичи-Волковыск | ежедн | 8-10 | 11-18 |
| 6423 | Барановичи-Волковыск | сб, вс | 10-55 | 13-31 |
| 6425 | Барановичи-Волковыск | ежедн | 11-50 | 14-46 |
| 6033 | Барановичи-Волковыск | ежедн | 20-34 | 23-36 |
| 6421 | Барановичи-Слоним | вт, чт, сб, вс | 7-32 | 9-02 |
| 6422 | Слоним-Барановичи | вт, чт, сб, вс | 10-00 | 11-32 |
| 6034 | Волковыск-Барановичи | ежедн | 4-42 | 7-40 |
| 6421 | Волковыск-Барановичи | сб, вс | 13-46 | 16-40 |
| 6426 | Волковыск- Барановичи | ежедн | 16-05 | 19-17 |
| 6036 | Волковыск-Барановичи | ежедн | 17-32 | 20-33 |
| 6427 | Барановичи-Полонка | вт, чт, сб, вс | 15-55 | 16-42 |
| 6429 | Барановичи-Полонка | ср, пт | 17-20 | 18-10 |
| 6428 | Полонка-Барановичи | вт, чт, сб, вс | 17-15 | 18-05 |
| 6430 | Полонка-Барановичи | ср, пт | 20-10 | 20-57 |
| 6401 | Барановичи-Лунинец | ежедн | 8-00 | 10-35 |
| 6403 | Барановичи-Лунинец | ежедн | 17-20 | 19-49 |
| 6405 | Барановичи-Лунинец | по указан | 18-40 | 21-40 |
| 6406 | Лунинец-Барановичи | по указан | 1-00 | 22-20 |
| 6402 | Лунинец-Барановичи | ежедн | 6-33 | 9-13 |
| 6404 | Лунинец-Барановичи | ежедн | 10-52 | 13-36 |
| 6501 | Барановичи-Лесная | по указан | 7-52 | 8-28 |
| 6503 | Барановичи-Грицевец | по указан | 17-40 | 18-06 |
| 6502 | Лесная-Барановичи | по указан | 8-40 | 9-17 |
| 6504 | Грицевец-Барановичи | по указан | 18-26 | 18-52 |
| 6808 | Барановичи-Минск | ежедн | 5-25 | 8-20 |
| 6812 | Барановичи-Минск | ежедн | 7-05 | 9-53 |
| 6816 | Барановичи-Минск | ежедн | 8-15 | 11-11 |
| 6820 | Барановичи-Минск | ежедн | 10-42 | 13-09 |
| 6360 | Барановичи-Минск | вых. дни | 11-02 | 13-54 |
| 6824 | Барановичи-Минск | ежедн | 12-30 | 15-17 |
| 6366 | Барановичи-Минск | пт, вых. дни | 14-03 | 16-44 |
| 6830 | Барановичи-Минск | ежедн | 14-52 | 17-43 |
| 6834 | Барановичи-Минск | ежедн | 16-25 | 19-27 |
| 6836 | Барановичи-Минск | ежедн | 17-35 | 20-40 |
| 6842 | Барановичи-Минск | ежедн | 20-01 | 22-58 |
| 6844 | Барановичи-Минск | ежедн | 20-40 | 23-54 |
| 6846 | Барановичи-Минск | ежедн | 22-26 | 0-31 |
| 6801 | Минск-Барановичи | ежедн | 0-33 | 3-09 |
| 6807 | Минск-Барановичи | ежедн | 3-57 | 7-01 |
| 6353 | Минск-Барановичи | пт, вых. дни | 7-17 | 10-32 |
| 6815 | Минск-Барановичи | ежедн | 8-20 | 11-31 |
| 6819 | Минск-Барановичи | ежедн | 10-30 | 13-23 |
| 6363 | Минск-Барановичи | вт, вых. дни | 11-32 | 14-27 |
| 6823 | Минск-Барановичи | ежедн | 13-11 | 15-46 |
| 6827 | Минск-Барановичи | ежедн | 14-10 | 17-00 |
| 6831 | Минск-Барановичи | ежедн | 16-09 | 19-10 |
| 6833 | Минск-Барановичи | ежедн | 16-59 | 20-00 |
| 6839 | Минск-Барановичи | ежедн | 19-12 | 22-20 |
| 6841 | Минск-Барановичи | ежедн | 20-20 | 23-24 |
| 6843 | Минск-Барановичи | ежедн | 21-15 | 23-50 |
| 6000 | Брест-Барановичи | ежедн | 6-22 | 10-07 |
| 6002 | Брест-Барановичи | ежедн | 8-30 | 12-05 |
| 6004 | Брест-Барановичи | ежедн | 12-00 | 15-35 |
| 6008 | Брест-Барановичи | ежедн | 18-42 | 22-05 |
| 6010 | Брест-Барановичи | ежедн | 20-30 | 0-12 |
| 6001 | Барановичи-Брест | ежедн | 3-29 | 7-21 |
| 6003 | Барановичи-Брест | ежедн | 6-48 | 10-30 |
| 6005 | Барановичи-Брест | ежедн | 13-45 | 17-18 |
| 6007 | Барановичи-Брест | ежедн | 16-06 | 19-37 |
| 6011 | Барановичи-Брест | ежедн | 22-40 | 2-00 |
| 6211 | Барановичи-Слуцк | ежедн | 7-49 | 10-20 |
| 6216 | Барановичи-Слуцк | ежедн | 19-50 | 22-28 |
| 6214 | Барановичи-Тимковичи | пт, сб, вс | 13-11 | 14-53 |
| 6213 | Тимковичи-Барановичи | пт, сб, вс | 15-13 | 16-53 |



## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

**НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ АДЫШЛІ НАЗАЎЖДЫ:**

| | |
|---|---|
| **Падрэцкі** Фёдар Валяр'янавіч | 1938 г.н. |
| **Яраш** Вольга Сцяпанаўна | 1969 г.н. |
| **Серы** Рыгор Іосіфавіч | 1942 г.н. |
| **Бірук** Аляксандр Аляксандравіч | 1940 г.н. |
| **Целушэцкі** Аляксей Антонавіч | 1912 г.н. |
| **Недбайлік** Лізавета Палікарпаўна | 1908 г.н. |
| **Семянюк** Іван Ільіч | 1932 г.н. |

Низкий поклон Вам, добрые люди!

Выражаем сердечную благодарность Герасимчикам Григорию и Елене, администрации и работникам музыкальной школы, работникам ДЭУ-191, родным и близким, соседям, которые в трудную минуту помогли, высказали соболезнования и приняли участие в захоронении нашего любимого **папочки** и **дедушки.**

*Семья Журук.*



**УТЕРЯННОЕ УДОСТОВЕРЕНИЕ** личности **ГВ № 013884** на имя **Лихолапа Виктора Аркадьевича** считать недействительным.

